Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

25 чэрвеня 1991 г. АЎТОРАК

№ 122 (21650)

Цана 10 кап

## ЗАЯВА
### партыйнай групы камуністаў Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

На сесіі Вярхоўнага Савета БССР 14 чэрвеня г. г. народны дэпутат А. Лукашэнка выступіў з заявай ад імя 33-х членаў КПСС аб стварэнні дэпутацкай групы «Камуністы Беларусі за дэмакратыю». Тэкст, падпісаны сямю дэпутатамі, быў затым 19 чэрвеня апублікаваны ў «Народнай газеце».

У сувязі з гэтым партыйная група лічыць неабходным растлумачыць наступнае. Перш за ўсё, у Вярхоўным Савеце БССР група з 33-х дэпутатаў не зарэгістравана, няма і адпаведнай просьбы наконт гэтага. Так што наўрад ці з'яўляецца этычным выступленне ад яе імя.

Мы адхіляем галаслоўныя абвінавачанні з боку ўказанай групы дэпутатаў кіраўніцтва ЦК Кампартыі Беларусі, а таксама камуністычнай фракцыі ў Вярхоўным Савеце рэспублікі ў кансерватызме, адсутнасці гібкасці ў рабоце, абароне адміністрацыйна-каманднай сістэмы, у адыходзе ад рашэнняў XIX партканферэнцыі і XXVIII з'езда КПСС, парушэнні законаў БССР.

Калі не браць словы на веру, а звярнуцца да дакументаў XXXI з'езда Кампартыі Беларусі, то адразу становіцца відавочным, што такія сур'ёзныя абвінавачанні кіраўніцтва КПБ у вяртанні да старога, беспадстаўныя і з'яўляюцца грубай інсінуацыяй. Наадварот, практычная дзейнасць партыйных арганізацый накіравана на абнаўленне нашай партыі і грамадства.

Пазіцыя Кампартыі Беларусі вызначана дастаткова ясна: поўная падтрымка дэкларацыі «Аб дзяржаўным суверэнітэце БССР», роўнасць усіх перад законам, заканадаўчае замацаванне дэмакратычных працэсаў, станаўленне і развіццё розных відаў уласнасці, прадпрымальніцкай дзейнасці, многаўкладнасць эканомікі сельскай гаспадаркі, бязвыплатная перадача зямлі ў карыстанне з правам перадачы ў спадчыну тым, хто на ёй працуе, раздзяржаўленне і прыватызацыя — толькі ў інтарэсах працоўных, пераход да рыначнай эканомікі — пры надзейнай сацыяльнай абароненасці людзей.

Іменна XXXI з'езд КПБ даручыў камуністам — народным дэпутатам выступіць з ініцыятывай прыняцця Вярхоўным Саветам БССР закона аб прыярытэтным развіцці вёскі. Дэлегаты з'езда першымі выступілі супраць устанаўлення якіх-небудзь незаконных сацыяльных прывілей для некаторых катэгорый асоб і звярнуліся да ўрада адмяніць прынятыя па гэтых пытаннях пастановы.

Паўстае зусім заканамернае пытанне, для чаго спатрэбілася групе дэпутатаў так скажаць прынцыповыя пазіцыі камуністаў, выпрацаваныя калектыўна, бессаромна займацца плагіятам з партыйных дакументаў і выдаваць іх думкі за ўласныя адкрыцці і знаходкі. Відаць, вылілася вострае жаданне гучней заявіць аб сабе дзеля задавальнення асабістых амбіцый.

Хіба не з'яўляецца палітычна амаральным і юрыдычна негрунтоўным заклік да пазбаўлення партыі яе матэрыяльнай базы? Колькі ж можна спекуляваць на інтарэсах меншасці? Ці не лепш заглянуць у Статут КПСС, дзе дакладна зафіксавана, што інтарэсы і правы меншасцей прызнаюцца ў той меры, у якой яны не супярэчаць пазіцыі большасці.

Кожнаму разважнаму чалавеку ясна, што развал эканомікі, падзенне маралі, разгул злачыннасці па часе супадаюць з кампаніяй адкрытага шальмавання камуністаў, адхілення партыйных арганізацый ад практычнага ўплыву на становішча спраў на вытворчасці. Падтрымліваючы пераход да рынку, партыйная група Вярхоўнага Савета выступае і будзе выступаць толькі за такія пераўтварэнні, якія адпавядаюць інтарэсам людзей. Пры гэтым мы зыходзім з таго, што рашаючае слова ва ўсіх справах належыць волі народа.

Цяпер не час гуляць у палітычныя гульні, надзвычай вялікая адказнасць дэпутатаў перад насельніцтвам рэспублікі. Для каардынацыі сваёй дзейнасці і правядзення ў жыццё волі выбаршчыкаў мы аб'ядналіся ў партыйную групу. Аднак Статутам КПСС не дапускаецца стварэнне груп або фракцый, якія не залежаць ад кіруючых партыйных органаў, але выступаюць ад імя партыі і звяртаюцца да пярвічных партыйных арганізацый. Статут партыі — закон для нас, а любы закон патрабуе да сябе павагі і няўхільнага выканання. Усякае яго парушэнне вядзе непазбежна да негатыўных вынікаў.

У цяперашняй сітуацыі лічым сваім абавязкам звярнуцца да ўсіх камуністаў-дэпутатаў з настойлівай просьбай праявіць разважнасць і ўзважанасць, выключную адказнасць за кожны свой крок, не дапускаць неабдуманых учынкаў, распальвання ўзаемнага недавер'я, накіраваць усе намаганні на пераадоленне канфрантацыйнасці і групавых інтарэсаў. Мы заклікаем усіх дэпутатаў-камуністаў да ўзгодненасці, адзінства нашых дзеянняў у імя інтарэсаў беларускага народа.

**Прынята на агульным сходзе партыйнай групы камуністаў Вярхоўнага Савета БССР 21 чэрвеня 1991 г.**

## Пастанова
### Вярхоўнага Савета Беларускай ССР
#### АБ УЛАСНАСЦІ КПСС—КПБ

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Прызнаць патрабаванні аб нацыяналізацыі ўласнасці КПСС — КПБ супярэчачымі Канстытуцыі і законам Беларускай ССР.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

18 чэрвеня 1991 г.
гор. Мінск.

## Пастанова
### Вярхоўнага Савета Беларускай ССР
#### АБ ПАРАДКУ АДАБРАННЯ І ПРАДАСТАЎЛЕННЯ ЗЯМЕЛЬНЫХ УЧАСТКАЎ

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць прыкладзенае Палажэнне аб парадку адабрання і прадастаўлення зямельных участкаў.

Савету Міністраў Беларускай ССР прывесці рашэнні Урада Беларускай ССР у адпаведнасць з указаным Палажэннем.

2. Устанавіць, што пры адмове мясцовага Савета народных дэпутатаў у прадастаўленні зямельнага ўчастка грамадзянін Беларускай ССР, зацікаўленае прадпрыемства, установа, арганізацыя могуць абскардзіць яго рашэнні ў вышэйстаячы Савет народных дэпутатаў і ў суд.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

5 чэрвеня 1991 г.
гор. Мінск.

## Палажэнне аб парадку адабрання і прадастаўлення зямельных участкаў

**І. Агульныя палажэнні**

1. Гэта Палажэнне ў адпаведнасці з Кодэксам Беларускай ССР аб зямлі ўстанаўлівае парадак прадастаўлення і адабрання зямельных участкаў з усіх зямель незалежна ад таго, у чым валоданні або карыстанні яны знаходзяцца.

2. Прадастаўленне зямельных участкаў праводзіцца на падставе праектаў адводу зямель, якія разглядаюцца ў адпаведнасці з гэтым Палажэннем.

Прадастаўленне зямельнага ўчастка, які знаходзіцца ў валоданні або карыстанні, іншаму землеўладальніку або землекарыстальніку праводзіцца толькі пасля адабрання гэтага ўчастка ў былога землеўладальніка або землекарыстальніка.

3. Падбор зямельных участкаў для размяшчэння аб'ектаў праводзіцца ва ўстаноўленым парадку прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі, зацікаўленымі ў адводзе зямель.

4. Вызначэнне памераў страт, прычыненых землеўладальнікам і землекарыстальнікам адабраннем зямельных участкаў, праводзіцца з удзелам зацікаўленых бакоў камісіямі сельскіх, пасялковых, гарадскіх Саветаў народных дэпутатаў па ўчастках, якія прадастаўляюцца па рашэннях гэтых Саветаў, а па ўчастках, якія прадастаўляюцца адпаведна па рашэннях раённых, абласных Саветаў народных дэпутатаў або Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, — камісіямі раённых Саветаў народных дэпутатаў.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

## Камісія ліквідавана. Прывілеі застаюцца?

Мінулы рабочы тыдзень дэпутаты завяршылі разглядам пытання «Аб упарадкаванні льгот грамадзянам у Беларускай ССР».

Льготамі і прывілеямі ў нашым неадназначным і супярэчлівым грамадстве карыстаюцца нямногія, а вось цікавяць, хвалююць і выклікаюць незадавальненне яны ледзь не ва ўсіх нас. Ну, скажыце, калі ласка, як можна застацца раўнадушным, калі міма вас з хуткасцю 90—100 кіламетраў у гадзіну праносіцца чорная «Волга», у якой, побач з вадзіцелем, сядзіць самазадаволены клерк-начальнік ці, больш таго,—ягоная жонка, дачка, цешча...

З паведамленнямі па гэтай вострай і далікатнай праблеме на сесіі выступілі першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Міхаіл Мясніковіч і старшыня Часовай камісіі Вярхоўнага Савета БССР па прывілеях Іван Герасюк.

На думку аднаго з кіраўнікоў урада рэспублікі, у пытанні аб ільготах і прывілеях асноўны акцэнт робіцца ў адрас прадстаўнікоў кіруючых структур. Што ж, заключэнне правільнае, падставы для яго ёсць. І хоць, як лічыць М. Мясніковіч, гэта звязана з недахопам інфармацыі, ёсць, на нашу думку, патрэба дадаць і іншае: калі б тая інфармацыя была паўнейшай, узрушэнняў у народных масах яна выклікала б яшчэ больш.

Замоўчванне правоў асобных катэгорый грамадзян, мяркуе першы намеснік прэм'ер-міністра рэспублікі, неканкрэтнасць у вызначэнні гэтых правоў нараджае мноства чутак і дадумванняў, дае магчымасць спекуляваць на выпадках парушэнняў і злоўжыванняў, якія, нібыта, не маюць нічога агульнага з устаноўленым парадкам і грамадска-палітычнай сістэмай і залежаць, у першую чаргу, ад асобы чалавека. Так то яно так, але ж парадку ў нас дагэтуль няма ніякага, і толькі апошнім часам са сродкаў масавай інфармацыі людзі даведаліся пра многія такія парушэнні і злоўжыванні. Больш таго, тыя наменклатурныя работнікі, якія дапусцілі іх, не панеслі выключна ніякіх пакаранняў. Таму і выклікае ўсё гэта ў простых смяротных законныя абурэнні.

Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі па настойлівых прапановах дэпутатаў вырашылі аб'яднаць намаганні ў барацьбе з незаконнымі прывілеямі і льготамі. Камісія парламента на чале з І. Герасюком за год сваёй дзейнасці выявіла сотні выпадкаў злоўжыванняў імі з боку саміх адказных асоб, запатрабавала спынення іх. Савет жа Міністраў БССР таксама перагледзеў шэраг інструкцый, загадаў і пастаноў, накіраваных на ўпарадкаванне прывілей і льгот.

Асабліва гэта датычыцца медыцынскага абслугоўвання. Так, у лютым 1990 года ліквідавана 4-е Галоўнае ўпраўленне Міністэрства аховы здароўя БССР, а асноўныя аб'екты яго —паліклінічнае і стацыянарнае дзіцячыя аддзяленні, паліклініка па вуліцы Ульянаўскай, санаторыі «Аксакаўшчына», «Беларусь» — у Місхоры, Друскенінкаі, Кіславодску, «Баравое», «Нясвіж» перададзены Мінскаму гарвыканкому, Міністэрству аховы здароўя і сельскім працаўнікам.

Аб дзяржаўных дачах. У веданні Савета Міністраў БССР знаходзяцца два пансіянаты — Сцяпянка і Крылова. Паўтара года назад прынята рашэнне аб ліквідацыі ў 1992 годзе дзяржаўных дач, і яно, як запэўніў М. Мясніковіч, будзе выканана. Уведзена новая плата за карыстанне жылой плошчай, прадстаўленне камунальных паслуг у адпаведнасці з тарыфам і дзеючым заканадаўствам.

Аўтапарк урада — таксама «хворае» месца ў гэтай абойме праблем. Цяпер, сказаў першы намеснік прэм'ер-міністра, у аўтабазе Кіраўніцтва спраў Савета Міністраў БССР ёсць 325 легкавых аўтамабіляў. 41 з іх абслугоўвае Вярхоўны Савет, 36 — апарат СМ, 170 — міністэрствы і ведамствы рэспублікі, цэнтральныя ўстановы, некаторыя грамадскія арганізацыі. Чацвёртая частка аўтамабіляў замацавана персанальна, астатнія працуюць па канвеернаму метаду. Абслугоўванне ажыццяўляецца ў межах выдзеленага ліміту.

Ва ўрадавую сувязь у Мінскай АТС уключаны 425 абанентаў. Цяпер праводзіцца работа па скарачэнню іх колькасці. З пачатку года, напрыклад, з яе выключаны 58 абанентаў ЦК КПБ. Паколькі выдаткі на ўтрыманне гэтага віду сувязі пакрываюцца за кошт бюджэту рэспублікі, урад прапанаваў карыстанне ім адносіць за кошт тых арганізацый, якім яна патрэбна.

Нейкіх асаблівых ільгот і прывілей, лічыць М. Мясніковіч, работнікі органаў дзяржаўнай улады не маюць. Ці так гэта? Народ мяркуе інакш... І не нападкі гэта на нашу наменклатуру. Людзі бачаць усё. Тут, мы лічым, не ўратуе і Закон аб дзяржаўнай службе і нават пакет законаў, як прапанаваў першы віцэ-прэм'ер.

І. Герасюк пачаў сваё выступленне з азнаямлення народных дэпутатаў БССР з пісьмамі і тэлеграмамі з розных куткоў рэспублікі, у якіх людзі просяць тэрмінова прыняць закон аб забароне ўсіх прывілей і льгот. Інакш асобныя камуністы пагражаюць спыніць уплату ўзносаў. Старшыня Часовай камісіі Вярхоўнага Савета БССР сказаў пры гэтым, што іх камісія займалася дзейнасцю толькі дзяржаўных органаў, а не грамадскіх і іншых арганізацый. Усе павінны быць у роўных умовах: і ў ахове здароўя, і ў забеспячэнні дачамі, службовымі аўтамашынамі. Для дзяржаўнага бюджэту быць накладак не павінна.

Народны дэпутат БССР, сакратар ЦК КПБ Валерый Ціхіня адзначыў: у выступленнях І. Герасюка, С. Антончыка, Г. Сямдзянавай многія прыклады заснаваны, мякка кажучы, на дапушчэннях і здагадках. Праз мясарубку крытыкі выступаючыя прапусцілі толькі партыйныя прывілеі. Але ж хіба няма гэтых прывілей у Саветах народных дэпутатаў, прафсаюзах і іншых грамадскіх арганізацыях...

Шчырая і зацікаўленая размова аб прывілеях адбылася на XXXI з'ездзе Кампартыі Беларусі, падкрэсліў В. Ціхіня. На ім адзначалася, што Кампартыя рэспублікі выступае супраць незаконных прывілей і льгот, прычым не толькі ў партыйных органах, але і ва ўсіх сферах нашага грамадства. Тут трэба нарэшце навесці парадак з тым, каб перастаць спекуляваць і разыгрываць палітычную карту. Падкрэсліваю: мы павінны змагацца з незаконнымі прывілеямі, а не з прывілеямі наогул, калі мы прэтэндуем на ролю цывілізаванага грамадства. Не факты злоўжывання службовым становішчам павінны мы расследаваць у вышэйшым заканадаўчым органе — гэта справа следчых органаў, мы павінны сёння вызначыць нашы адносіны да ўстанаўлення парадку і ўмоў прадастаўлення льгот і прывілей, кантролю за іх выкарыстаннем. Мы павінны сказаць «так» законным ільготам і прывілеям, мы павінны сказаць «не» любой магчымасці атрымаць тую ці іншую льготу ў парушэнне закона, падкрэсліў доктар юрыдычных навук В. Ціхіня.

Інфармацыя Савета Міністраў БССР і Часовай камісіі Вярхоўнага Савета БССР па прывілеях аб праведзенай рабоце і прынятых мерах па ўпарадкаванню ўмоў службовай дзейнасці работнікаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання рэспублікі прынята да ведама.

Камісія ліквідавана — такая воля большасці дэпутатаў. А вось што будзе з прывілеямі, якіх па-ранейшаму так багата?..

**А. МЯСНІКОЎ.**

## РЭКАМЕНДАЦЫІ
### навукова-практычнай канферэнцыі «Праблемы ўласнасці і цэнавай палітыкі ва ўмовах пераходу эканомікі да рыначных адносін»

Удзельнікі навукова-практычнай канферэнцыі «Праблемы ўласнасці і цэнавай палітыкі ва ўмовах пераходу эканомікі да рыначных адносін» адзначаюць, што рэфарміраванне ўласнасці і сістэмы цэнаўтварэння з'яўляецца важным фактарам павышэння эфектыўнасці грамадскай вытворчасці, стабілізацыі эканомікі і пераходу яе да рыначных адносін.

Асноўная мэта ажыццяўляемых пераўтварэнняў — забеспячэнне эканамічнай свабоды вытворцаў і стымулявання працы, развіццё прадпрымальніцтва і канкурэнцыі. У адпаведнасці з рашэннямі XXXI з'езда Кампартыі Беларусі павінна паслядоўна рэалізоўвацца палітыка захавання сацыялістычных асноў развіцця нашага грамадства, абароны інтарэсаў працоўных, забеспячэння сацыяльных гарантый росту матэрыяльнага і духоўнага ўзроўню жыцця беларускага народа.

Як паказвае аналіз, эканамічныя вынікі работы арэндных, акцыянерных прадпрыемстваў рэспублікі, а таксама тых, што прымяняюць іншыя новыя формы гаспадарання, як правіла, вышэй, чым у іншых прадпрыемстваў і сярэднегаліновых паказчыкаў. З раздзяржаўленнем уласнасці прадпрыемстваў і пераходам на новыя формы гаспадарання павышаюцца тэмпы росту вытворчасці, даходы прадпрыемстваў, заработная плата работнікаў, прадукцыйнасць працы, хоць гэтыя працэсы суправаджаюцца і негатыўнымі з'явамі (хуткі рост цэн, імкненне да празмернай долі асабістага спажывання ў даходах прадпрыемстваў і інш.)

Выклікаюць сур'ёзную заклапочанасць магчымыя сацыяльна-эканамічныя і палітычныя вынікі праводзімай рэформы цэн. Устаноўленыя на машынабудаўнічую прадукцыю цэны не стымулююць укараненне рэсурсазберагаючых тэхналогій і дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу. Новыя закупачныя цэны не дазволілі дасягнуць росту таварнасці сельскагаспадарчай вытворчасці.

Не забяспечана таварна-грашовая збалансаванасць. Памеры павелічэння рознічных цэн аказаліся яўна завышанымі ў параўнанні з прадугледжанымі мерамі сацыяльнай абароны насельніцтва, знізіўся жыццёвы ўзровень людзей. Ураўняльна-размеркавальны прынцып кампенсацыі ўзрослых расходаў насельніцтва выклікаў сацыяльна-палітычную напружанасць у цэлым па краіне і асабліва ў нашай рэспубліцы.

Абмеркаванне ўказаных праблем дазволіла сфармуляваць рад вывадаў і рэкамендацый па разглядаемых пытаннях.

1. Канферэнцыя лічыць, што раздзяржаўленне ўласнасці — гэта перш за ўсё дэмакратызацыя эканомікі, пераадоленне манаполіі дзяржавы на уласнасць, паступовы пераход да новых форм гаспадарання.

Працэс рэфарміравання ўласнасці павінен адпавядаць інтарэсам працоўных, улічваць грамадскую думку, ступень гатоўнасці насельніцтва, працоўных калектываў да новых форм уласнасці і гаспадарання. Тут недапушчальныя прымушэнне, адміністрацыйны націск.

2. Наперадзе параўнальна працяглы пераходны перыяд станаўлення і развіцця розных форм уласнасці, адпрацоўкі эканамічных механізмаў іх узаемадзеяння. Галоўнымі крытэрыямі ў гэтай справе павінны быць эканамічная мэтазгоднасць і эфектыўнасць, сацыяльная справядлівасць.

3. Непрымальнымі з'яўляюцца прапановы і дзеянні па празмернай дэнацыяналізацыі і перадачы дзяржаўнай маёмасці ў прыватную ўласнасць. Такі падыход антыдэмакратычны, выключае магчымасць выбару людзьмі іншых форм

(Заканчэнне на 2-й стар.).





## НАД БУГАМ— ЦІШЫНЯ

**Рэпартаж з месца падзеі**



У памяці гэтых людзей, якія прыехалі сюды з розных куткоў краіны, Брэст застаўся разбураным, у агні і разрывах снарадаў, перапоўненым нянавісці да ворага і бяссільным перад ім. Для іх ён — не проста горад паміж іх краінай і іншым светам, ён — граніца паміж мірам і вайной, паміж жыццём і смерцю. Можа іменна таму яны дзівіліся яго ўнутранаму спакою, утульнасці і чысціні, а дзяўчаты-камсамолкі, якія апекавалі гасцей, не хавалі задавальнення — ім было вельмі прыемна, што іх Брэст так падабаецца людзям, якія прайшлі палову Еўропы, а таму толк у гарадах ведаюць.

Што і казаць, вялізную работу правялі супрацоўнікі музея абароны Брэсцкай крэпасці, каб адшукаць адрасы тых, хто першым прыняў на сябе ўдар нямецкай арміі, хапіла клопатаў і работнікам Брэсцкага гаркома партыі, якія ўзялі на сябе ролю арганізатараў правядзення мерапрыемстваў, звязаных з 50-годдзем пачатку Вялікай Айчыннай вайны, і з гэтай роллю цудоўна справіліся, хаця нават размясціць гасцей было вельмі няпроста.

Афіцыйная частка пачалася днём 21 чэрвеня, калі ў адной зале сабраліся абаронцы крэпасці-героя, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, прадстаўнікі воінскіх часцей. Іх віталі член Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі А. Малафееў, першы сакратар Брэсцкага абкома партыі А. Зеляноўскі. І выступаўшыя, і прысутныя былі аднадушныя ў думцы, што без адзінства народаў, насяляючых СССР, перамога над нямецка-фашысцкімі захопнікамі была б немагчымай, і што гэты ўрок зараз, у нялёгкі для краіны час, мы не павінны забываць.

...Сустрэча крэпасці з яе абаронцамі павінна была пачацца ў 3 гадзіны 30 мінут раніцы 22 чэрвеня, за паўгадзіны да таго моманту, як пяцьдзесят гадоў назад пачаўся першы з доўгіх 1418 дзён вайны. Мы з фотакарэспандэнтам Мікалаем Амельчанкам прыехалі ў крэпасць мінут на 40 раней, каб пабыць сам-насам з цішынёй і паспрабаваць уявіць, што адчувалі людзі паўвека назад, якія з усведамленнем таго, што адбылося, яшчэ не ведаючы, што за пакуты ім наканаваны, зразумелі, што таго жыцця, якім жылі хвіліну назад, ужо ніколі не будзе.

Але цішыню мы, нягледзячы на ранні час, не пачулі. Мы слухалі жыццё і былі ўпэўнены — каб вы ведалі, якое гэта шчасце адчуваць гэтую ўпэўненасць у Брэсцкай крэпасці ў 3 гадзіны раніцы 22 чэрвеня!— што жыццё наша, нашых родных, знаёмых і незнаёмых нам

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

**Больш за сто сельскіх дзяцей праводзяць першы месяц канікулаў у міжгаспадарчым піянерскім лагеры «Крынічка» на тэрыторыі калгаса «Палажэвічы» Старадарожскага раёна. Яны робяць паходы, наладжваюць канцэрты, спартыўныя спаборніцтвы. Канікулы праходзяць весела.**

**НА ЗДЫМКУ: піянерважатая Аксана СЛАБАДЗЮК з дзецьмі на прагулцы.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА. (БЕЛТА).**

# Рэкамендацыі

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

уласнасці. Неабходна разумнае спалучэнне аплатнага і бязвыплатнага метадаў раздзяржаўлення і прыватызацыі. Адно з галоўных пытанняў тут — улік асабістага ўкладу кожнага работніка ў стварэнне дзяржаўнай уласнасці, надзейная прававая абарона яе ад прысваення прадстаўнікамі ценявой эканомікі. Павінна быць забяспечана эканамічная абгрунтаванасць ацэнкі дзяржаўнай маёмасці. Нельга дапускаць перадачы за бясцэнак калектывам і асобным грамадзянам дзяржаўных прадпрыемстваў без уліку таго, што яны ствараліся працай пакаленняў і з'яўляюцца набыткам народа.

4. Канферэнцыя выступае за многаўкладнасць эканомікі, пераўтварэнне ўласнасці пры прыярытэце калектыўных яе форм, але супраць перадачы або распрадажы зямлі і прыродных рэсурсаў у прыватную ўласнасць. Дзяржаўная ўласнасць павінна як гарантыя рэалізацыі важнейшых канстытуцыйных правоў савецкіх грамадзян заставацца асноўнай у развіцці аховы здароўя, навукі, адукацыі, культуры, спорту і іншых сацыяльна значных галін.

5. Удзельнікі канферэнцыі лічаць, што раздзяржаўленне і прыватызацыю ўласнасці неабходна ажыццяўляць на аснове дзяржаўнай рэспубліканскай праграмы.

У першачарговым парадку могуць быць прыватызаваны прадпрыемствы і арганізацыі, якія абслугоўваюць насельніцтва (гандаль, грамадскае харчаванне, бытавое абслугоўванне, жыллёва-камунальная гаспадарка), выпускаюць тавары народнага спажывання, перапрацоўваюць сельскагаспадарчую сыравіну, а таксама невялікія прадпрыемствы прамысловасці, будаўніцтва, транспарту.

Раздзяржаўленне і пераход да рынначай эканомікі прадугледжваюць неабходнасць ажыццяўлення на ўзроўні рэспублікі, галіны, рэгіёна адзінай дзяржаўнай навукова-тэхнічнай, структурнай і інвестыцыйнай палітыкі, сацыяльна-эканамічнага прагназіравання.

6. Ва ўмовах рэфарміравання ўласнасці трэба паскорыць вырашэнне ўсяго комплексу праблем, звязаных з забеспячэннем канстытуцыйнага права грамадзян на працу, — арганізаваць сетку дзяржаўнай службы і фонд садзейнічання занятасці, выпрацаваць і ажыццявіць праграму стварэння дадатковых рабочых месц, сістэмы прафесіянальнай падрыхтоўкі і перакваліфікацыі кадраў.

7. Працэс стварэння і развіцця фермерскіх гаспадарак абавязкова павінен суправаджацца палітыкай іх актыўнай дзяржаўнай падтрымкі (тэхнічнае, навуковае, матэрыяльнае забеспячэнне, фінансаванне, цэнаўтварэнне, падаткаабкладанне і г. д.).

8. Канферэнцыя лічыць, што ўрад рэспублікі і мясцовыя Саветы павінны аказваць усямерную падтрымку фарміраванню рынку жылля, індывідуальнаму і кааператыўнаму жыллёваму будаўніцтву. Пры гэтым павінны захоўвацца гарантыі і дапамога дзяржавы ў забеспячэнні жыллём грамадзян і перш за ўсё інвалідаў, ветэранаў вайны і працы, ваеннаслужачых, а таксама настаўнікаў, урачоў і іншых работнікаў невытворчай сферы, сем'яў з нізкімі даходамі.

Неабходна зняць усе абмежаванні і стварыць умовы для бесперашкоднага пераразмеркавання жылля, прадугледзець адпаведную грашовую кампенсацыю грамадзянам, якія маюць лішкі жылой плошчы і выказалі жаданне перасяліцца ў меншыя кватэры. Прыватызацыя жылля — выключна добраахвотная справа, і тут недапушчальны які б там ні быў прымус.

9. У галіне цэнаўтварэння лічыць магчымым правядзенне далейшай лібералізацыі цэн толькі па меры фарміравання рынача-арыенціровачных сектараў эканомікі, раздзяржаўлення, развіцця новых форм і адносін уласнасці, дэманапалізацыі.

У мэтах садзейнічання фарміраванню агульнасаюзнага рынку прызнаць неабходным правядзенне ўзгодненай з іншымі рэспублікамі і цэнтрам цэнавай палітыкі, заснаванай на агульных метадалагічных прынцыпах і падыходах.

10. Ва ўмовах нарастання інфляцыйных працэсаў прыняць неабходныя меры па забеспячэнню таварна-грашовай збалансаванасці як важнейшага фактара нармалізацыі спажывецкага рынку. Увязаць палітыку даходаў і палітыку цэн. Для забеспячэння сацыяльнай абароны насельніцтва распрацоўваць і рэалізоўваць мэтавыя праграмы падтрымкі малазабяспечаных слаёў, непрацаздольных, беспрацоўных.

11. У галіне закупачных цэн ажыццявіць на аснове кантрактаў пераход да цэн адзінага ўзроўню, якія забяспечвалі б роўныя ўмовы для ўсіх форм уласнасці. Праводзіць кожны год разлік парытэтных закупачных цэн. Забяспечыць парытэтнасць эканамічных адносін аграрнага сектара эканомікі з прамысловым пры дапамозе фіксаваных датацый у разліку на адзінку прадукцыі без змянення ўзроўню кантрактных цэн.

12. Прымяняць дагаворныя (свабодныя) цэны толькі ў выпадку выкарыстання сыравіны, матэрыялаў і камплектуючых вырабаў, набытых па дагаворных цэнах. Неабходна перайсці да актыўнага прымянення сістэмы падатковых ільгот для прадпрыемстваў, якія выпрабляюць тавары народнага спажывання, выпускаюць новую высокаэфектыўную прадукцыю.

13. Канферэнцыя лічыць мэтазгодным адмяніць агульнасаюзны падатак з продажаў. Прадаставіць права ўстанаўлення, акумуліравання і выкарыстання падаткаў з продажаў мясцовым органам улады.

***

Улічваючы велізарнае сацыяльна-палітычнае значэнне работы па раздзяржаўленню ўласнасці, правядзенню цэнавай рэформы, іх вынікаў для лёсаў людзей, жыццёвага ўзроўню насельніцтва, крайне важна арганізаванае, публічнае ажыццяўленне гэтых працэсаў з удзелам органаў улады і кіравання, грамадскасці.

Партыйным і прафсаюзным камітэтам неабходна ўзмацніць сваё ўздзеянне на забеспячэнне сацыяльнай накіраванасці рэфарміравання ўласнасці, няўхільнае выкананне дзеючага заканадаўства.

Трэба праяўляць клопаты аб стварэнні спрыяльных эканамічных умоў для дынамічнага развіцця разнастайных форм уласнасці і гаспадарання, кіравацца мэтазгоднасцю і сацыяльна-эканамічнай эфектыўнасцю праводзімых мерапрыемстваў, улічваць інтарэсы дзяржавы, працоўных калектываў, розных груп насельніцтва, аказваць партыйным і прафсаюзным арганізацыям, працоўным калектывам дзейсную дапамогу ў вырашэнні практычных пытанняў, звязаных з працэсам раздзяржаўлення прадпрыемстваў.

Актыўна процідзейнічаць кампанейшчыне, паспешнасці, адміністраванню ў гэтай справе, разбазарванню народнага набытку, пераходу яго ў рукі дзялкоў ценявой эканомікі. Дабівацца забеспячэння сацыяльнай абароны і канстытуцыйных правоў грамадзян у працэсах раздзяржаўлення, прыватызацыі, рэформы аплаты працы і цэнаўтварэння, правядзення актыўнай дзяржаўнай палітыкі занятасці і аказання дапамогі малазабяспечаным слаям насельніцтва.

*Мінск, 15 чэрвеня 1991 г.*

# Ваша пісьмо атрымалі

**Група жыхароў г. Клецка паскардзілася ў «Звязду», што выдзелены ім зямельны ўчастак адведзены пад будаўніцтва дома. Ці так гэта?**

**Намеснік старшыні Мінскага аблвыканкома В. ГОЛУБЕЎ** паведаміў рэдакцыі, што гэты факт не адпавядае сапраўднасці.

У ходзе праверкі ўстаноўлена, што будаўніцтва жылога дома механічнага завода на ўказаным зямельным участку не вядзецца: ён выдзелены гаражджанам пад агародныя градкі. Такім вырашэннем пытання жыхары задаволены.

●

**«Хто дазволіў у лесапаркавай зоне, што знаходзіцца ў раёне станцыі «Зялёнае», адкрыць кар'ер?»—такі сігнал і адначасова пытанне былі ў пісьме мінчанкі Н. Звонак.**

**Старшыня выканкома Мінскага раённага Савета народных дэпутатаў Ф. ЧАРНУШЭВІЧ** пацвердзіў, што самавольнае адкрыццё і распрацоўка гравійнага кар'ера ў гэтай лесапаркавай зоне допушчана кіраўніцтвам садаводчага таварыства «Ніва».

У адпаведнасці з прадпісаннем райінспекцыі па экалогіі работы тут спынены.

Вінаватыя — старшыня садаводчага таварыства «Ніва» Л. Новік і падрадчык начальнік ПМК-42 упраўлення «Мінскмеліярацыя» В. Комар прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

●

**«Маю кватэру абакралі, аб гэтым я адразу паведаміла ў міліцыю. Але там ніякіх мер па пошуку зладзеяў не прынялі, а развялі валакіту. Хіба гэта правільна?» — скардзілася настаўніца з г. Бабруйска Э. Пятровіч.**

**Упраўленнем унутраных спраў аблвыканкома**, гаворыцца ў адказе **намесніка начальніка В. ЕЛМАНАВА,** пісьмо грамадзянкі Э. Пятровіч аб валакіце і непрыняцці мер па раскрыццю крадзяжу яе асабістай маёмасці разгледжана. З аналагічнымі заявамі яна неаднаразова звярталася ва УУС і пракуратуру Магілёўскай вобласці.

Устаноўлена, што Пятровіч Э. Б., вярнуўшыся з водпуску, выявіла крадзеж сваёй асабістай маёмасці з кватэры, аб чым паведаміла ў Ленінскі РАУС г. Бабруйска.

У гэты ж дзень былы следчы ўказанага РАУС І. Змітровіч узбудзіў па данаму факту крымінальную справу. Аднак на першапачатковым этапе расследавання з-за неахайнасці дапусціў шэраг парушэнняў норм КПК, у выніку чаго была страчана працэсуальная значнасць асобных дакументаў. За праяўленую валакіту і парушэнні норм КПК І. Змітровіч прыцягнуты да строгай дысцыплінарнай адказнасці (папярэджаны аб няпоўнай службовай адпаведнасці), аб чым было паведамлена Э. Пятровіч.

Як адзначаецца ў рэагаванні, пасля правядзення папярэдняга следства ў сувязі з неўстаноўленнем вінаватых асоб, крымінальная справа была прыпынена.

Па ўказанню УУС супрацоўнікамі крымінальнага вышуку і следства актывізаваны мерапрыемствы па раскрыццю дадзенага злачынства, правяраюцца довады пацярпеўшай аб дачыненні да крадзяжу асобных асоб, але станоўчых вынікаў пакуль не дасягнута.

12 мая 1991 года следства па гэтай справе адноўлена, і праводзіцца дадатковае расследаванне, якое ўзята на кантроль.

# ПАЛАЖЭННЕ АБ ПАРАДКУ АДАБРАННЯ І ПРАДАСТАЎЛЕННЯ ЗЯМЕЛЬНЫХ УЧАСТКАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Страты сельскагаспадарчай і лесагаспадарчай вытворчасці вызначаюцца ў адпаведнасці з зацверджанымі нарматывамі землеўпарадкавальнымі органамі або органамі архітэктуры і горадабудаўніцтва, што распрацоўваюць праекты адводу зямель, і зацвярджаюцца раённымі Саветамі народных дэпутатаў.

Размеры страт вызначаюцца папярэдне пры выбары зямельнага ўчастка і ўдакладняюцца пры распрацоўцы праекта адводу зямель.

5. Распрацоўку праектаў адводу зямельных участкаў, а таксама ўстанаўленне граніц прадастаўленых зямельных участкаў у натуры (на мясцовасці) і выраб дакументаў, якія засведчваюць права валодання і права карыстання зямлёй, ажыццяўляюць інстытут «Белдзіпразем» і яго філіялы або землеўпарадкавальная служба пры сельскіх, пасялковых, гарадскіх і раённых Саветах народных дэпутатаў.

У выпадках, калі зямельныя ўчасткі прадастаўляюцца з зямель гарадоў, гарадскіх і рабочых пасёлкаў, распрацоўку праектаў адводу і ўстанаўленне граніц зямельных участкаў у натуры (на мясцовасці) могуць праводзіць органы архітэктуры і горадабудаўніцтва пры выканаўчых камітэтах гарадскіх, раённых Саветаў народных дэпутатаў.

Заказчыкамі праектаў адводу зямельных участкаў з'яўляюцца адпаведныя мясцовыя Саветы народных дэпутатаў, дзяржаўныя, кааператыўныя, грамадскія прадпрыемствы, установы і арганізацыі.

Распрацоўка праектаў адводу зямельных участкаў для вядзення сялянскай гаспадаркі, асабістай падсобнай гаспадаркі, індывідуальнага садаводства, агародніцтва і жывёлагадоўлі праводзіцца па заяўках мясцовых Саветаў народных дэпутатаў за кошт сродкаў бюджэту, выдзяляемых на землеўпарадкаванне.

Умовы і тэрміны распрацоўкі праектаў адводу зямельных участкаў і перанясення іх граніц у натуру (на мясцовасць) вызначаюцца дагаворам паміж заказчыкам і выканаўцам гэтых работ.

6. Праект адводу зямельнага ўчастка афармляецца ў цэлым на аб'ект незалежна ад колькасці землеўладальнікаў і землекарыстальнікаў, з зямель якіх прадастаўляюцца зямельныя ўчасткі. Пры размяшчэнні аб'екта на тэрыторыі некалькіх адміністрацыйных раёнаў праекты адводу зямель распрацоўваюцца па кожнаму раёну.

7. У выпадку неабходнасці дадатковага прадастаўлення зямель для існуючых аб'ектаў пры распрацоўцы праекта адводу праводзіцца дэталёвае абследаванне раней адведзеных зямель, правяраецца выкарыстанне іх па мэтаваму назначэнню, а таксама стан работ па рэкультывацыі выкарыстаных зямель.

Дадатковае прадастаўленне зямель для распрацоўкі месцараджэнняў карысных выкапняў адкрытым спосабам і здабычы торфу праводзіцца, як правіла, пасля прывядзення раней адведзеных зямельных участкаў у стан, прыдатны для далейшага гаспадарчага выкарыстання, і вяртання іх былым землеўладальнікам і землекарыстальнікам, а ў выпадку іх адмовы ад рэкультываванага ўчастка — пасля перадачы яго адпаведнаму Савету народных дэпутатаў.

8. Адвод зямельных участкаў кааператывам для калектыўнага садаводства, жывёлагадоўлі і агародніцтва, а таксама грамадзянам для вядзення сялянскай гаспадаркі, асабістай падсобнай гаспадаркі, традыцыйных народных промыслаў, будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома, дачнага будаўніцтва, індывідуальнага садаводства, агародніцтва і жывёлагадоўлі праводзіцца без афармлення матэрыялаў па папярэдняму ўзгадненню месца іх размяшчэння.

9. Генеральныя планы гарадоў і іншых населеных пунктаў да прадстаўлення іх на зацвярджэнне падлягаюць абавязковаму ўзгадненню ў частцы перспектыўнага заняцця зямель з раённымі і абласнымі органамі землеўпарадкавання і падвяргаюцца экалагічнай экспертызе. Генеральныя планы гарадоў, якія зацвярджаюцца Саветам Міністраў БССР, акрамя таго, узгадняюцца з Камітэтам па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Беларускай ССР і праходзяць экалагічную экспертызу ў Дзяржаўным камітэце Беларускай ССР па экалогіі.

10. Прадастаўленне ў адпаведнасці з артыкулам 16 Кодэкса Беларускай ССР аб зямлі зямельных участкаў для будаўніцтва школ, бальніц, прадпрыемстваў гандлю, культурна - бытавых устаноў, культавых збудаванняў, могілак і іншых аб'ектаў, звязаных з абслугоўваннем насельніцтва, для індывідуальнага жыллёвага і дачнага будаўніцтва, вядзення сялянскай (фермерскай гаспадаркі), індывідуальнага і калектыўнага садаводства, агародніцтва, жывёлагадоўлі і іншых сельскагаспадарчых патрэб праводзіцца па рашэннях раённых Саветаў народных дэпутатаў з зямель усіх катэгорый незалежна ад узроўню кадастравай ацэнкі сельскагаспадарчых угоддзяў і рэжыму лесакарыстання.

11. У выпадках, калі ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 5 Кодэкса Беларускай ССР аб зямлі мясцовыя Саветы народных дэпутатаў перадалі свае паўнамоцтвы ў частцы прадастаўлення і адабрання зямель сваім выканаўчым і распарадчым органам, адпаведныя нормы гэтага Палажэння распаўсюджваюцца на гэтыя органы.

## II. Парадак адабрання і прадастаўлення зямельных участкаў грамадзянам Беларускай ССР

12. Грамадзяне, незалежна ад месца іх пастаяннага пражывання, якія выявілі жаданне весці сялянскую гаспадарку, падаюць заявы аб прадастаўленні ім зямельнага ўчастка, у тым ліку і на ўмовах арэнды, у сельскі (пасялковы) Савет народных дэпутатаў па месцы знаходжання зямельнага ўчастка з указаннем яго плошчы і праграмы вядзення сялянскай гаспадаркі. У праграме ўказваюцца напрамак вытворчай дзейнасці (спецыялізацыя), арыенціровачныя аб'ёмы, структура вытворчасці і колькасны састаў працуючых у сялянскай гаспадарцы. Члены калгасаў і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, якія пажадалі выйсці з іх саставу і весці сялянскую гаспадарку, накіроўваюць гэтым прадпрыемствам копіі сваіх заяў.

Разгляд указаных заяў праводзіцца ў парадку і ў тэрміны, вызначаныя артыкуламі 5 Закона Беларускай ССР «Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы».

13. Заявы на прадастаўленне зямельнага ўчастка для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі, будаўніцтва і абслугоўвання жылога дома, агародніцтва, касьбы і выпасу жывёлы[1], традыцыйных народных промыслаў і іншых мэт падаюцца ў сельскі, пасялковы, гарадскі, раённы Савет народных дэпутатаў (па месцы знаходжання зямельнага ўчастка, які запытваецца), і для індывідуальнага садаводства і дачнага будаўніцтва —у раённы Савет народных дэпутатаў.

У заяве грамадзян указваюцца мэта выкарыстання і размер зямельнага ўчастка, што запытваецца, месца яго размяшчэння, састаў сям'і, размер участка, які ўжо знаходзіцца ў валоданні або карыстанні грамадзяніна, а пры выдзяленні зямельных участкаў для касьбы і выпасу жывёлы, акрамя таго, колькасць і від жывёл, якія знаходзяцца ва ўласнасці.

14. Заявы грамадзян аб выдзяленні зямельнага ўчастка разглядаюцца сельскімі, пасялковымі, гарадскімі, раённымі Саветамі народных дэпутатаў у месячны тэрмін. Пры адсутнасці пярэчанняў у адводзе зямельнага ўчастка адпаведны Савет народных дэпутатаў дае заказ землеўпарадкавальным органам або органам архітэктуры і горадабудаўніцтва на распрацоўку праекта адводу зямельнага ўчастка.

Аб ходзе разгляду заяў грамадзян аб выдзяленні зямельнага ўчастка (у тым ліку аб матывах адмовы пры наяўнасці пярэчанняў) паведамляецца грамадзяніну ў месячны тэрмін з дня падачы заявы.

15. Матэрыялы па адабранню і прадастаўленню зямельнага ўчастка выканаўцам работ узгадняюцца з землеўладальнікам або землекарыстальнікам, раённымі (гарадскімі) органамі землеўпарадкавання, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды і прадстаўляецца на разгляд адпаведнага Савета народных дэпутатаў, які ў месячны тэрмін прымае неабходнае рашэнне.

## III. Парадак адабрання і прадастаўлення зямельных участкаў прадпрыемствам, установам, арганізацыям і кааператывам

### ПАРАДАК ПАПЯРЭДНЯГА ЎЗГАДНЕННЯ МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ АБ'ЕКТА

16. Папярэдняе ўзгадненне месца размяшчэння аб'екта, прыкладных размераў зямельных участкаў, якія намячаюцца да адводу, і ўмоў іх прадастаўлення праводзяць сельскія, пасялковыя, гарадскія, раённыя і абласныя Саветы народных дэпутатаў у адпаведнасці з іх кампетэнцыяй па адабранню і прадастаўленню зямель.

Папярэдняе ўзгадненне месца размяшчэння аб'екта на землях, адабранне і прадастаўленне якіх уваходзіць у кампетэнцыю Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, праводзіцца абласнымі, Мінскім гарадскім Саветамі народных дэпутатаў.

17. Прадпрыемствы, установы, арганізацыі, кааператывы[2], зацікаўленыя ў адабранні зямельных участкаў для нясельскагаспадарчых і нялесагаспадарчых патрэб, звяртаюцца з хадайніцтвам аб папярэднім узгадненні месца размяшчэння аб'екта з указаннем арыенціровачнай плошчы ўчастка і месца размяшчэння аб'екта, якое намячаецца, у адпаведны сельскі, пасялковы, гарадскі, раённы Савет народных дэпутатаў (па месцы знаходжання зямель, якія запытваюцца).

Да хадайніцтва прыкладаюцца неабходныя абгрунтоўваючыя матэрыялы і разлікі.

18. Сельскі, пасялковы, гарадскі, раённы Савет народных дэпутатаў у месячны тэрмін разглядае хадайніцтва прадпрыемстваў і пры станоўчым рашэнні дазваляе ім падрыхтоўку матэрыялаў папярэдняга ўзгаднення месца размяшчэння аб'екта.

19. Прадпрыемствы ўзгадняюць найбольш мэтазгодны варыянт месца размяшчэння аб'екта, размеры зямельных участкаў, якія намячаюцца да адводу, і ўмовы іх адводу з адпаведнымі землеўладальнікамі, сельскімі пасялковымі Саветамі народных дэпутатаў (калі рашэнне аб узгадненні месца размяшчэння аб'екта будзе прымацца раённымі або абласнымі Саветамі народных дэпутатаў), раённымі (гарадскімі) органамі землеўпарадкавання, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды, санітарнага нагляду, і пры неабходнасці, — з адпаведнай тэрытарыяльнай праектнай арганізацыяй (БелНДІП горадабудаўніцтва, інстытутамі «Белпрампраект» і «Белаграпрампраект»), органамі пажарнага нагляду, іншымі зацікаўленымі арганізацыямі і службамі і прадстаўляюць матэрыялы ўзгаднення сельскім, пасялковым, гарадскім, раённым Саветам народных дэпутатаў, якія ў месячны тэрмін разглядаюць іх і прымаюць адпаведнае рашэнне.

Калі папярэдняе ўзгадненне месца размяшчэння аб'екта павінна праводзіцца абласнымі, Мінскім гарадскім Саветамі народных дэпутатаў, раённы Савет народных дэпутатаў у месячны тэрмін рыхтуе сваё заключэнне і матэрыялы перадае прадпрыемству, зацікаўленаму ў адводзе зямельнага ўчастка, для ўзгаднення з абласнымі, гарадскімі органамі землеўпарадкавання, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды ў залежнасці ад назначэння, месцараспалажэння і ўмоў функцыяніравання аб'екта, з органамі лясной гаспадаркі, іншымі зацікаўленымі ўстановамі, арганізацыямі і для прадстаўлення ў абласны, Мінскі гарадскі Саветы народных дэпутатаў.

20. Абласны, Мінскі гарадскі Саветы народных дэпутатаў у месячны тэрмін разглядаюць прадстаўленыя матэрыялы і прымаюць рашэнне аб узгадненні месца размяшчэння аб'екта.

У выпадках, калі для прадастаўлення зямельнага ўчастка патрабуецца рашэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, абласныя, Мінскі гарадскі Саветы народных дэпутатаў прымаюць рашэнне аб узгадненні месца размяшчэння аб'екта пасля атрымання станоўчага заключэння Камітэта па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Беларускай ССР.

21. Для разгляду матэрыялаў папярэдняга ўзгаднення месца размяшчэння аб'екта Камітэт па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Беларускай ССР пры неабходнасці прыцягвае прадстаўнікоў Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па экалогіі, Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па архітэктуры і будаўніцтву, Міністэрства лясной гаспадаркі. Беларускай ССР, Міністэрства аховы здароўя Беларускай ССР, іншых зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў Беларускай ССР.

Міністэрствы і ведамствы Беларускай ССР разглядаюць матэрыялы і даюць свае заключэнні ў 10-дзённы тэрмін.

22. Матэрыялы папярэдняга ўзгаднення месца размяшчэння аб'екта павінны ўключаць: копію плана адпаведнага землеўладання або землекарыстання з нанесенымі варыянтамі размяшчэння аб'екта, звесткі аб саставе адводзімых зямельных угоддзяў, іх якасці, умовах адводу зямель з улікам комплекснага развіцця тэрыторыі і ацэнкі ўздзеяння аб'екта на навакольнае асяроддзе, аб арыенціровачных сумах страт сельскагаспадарчай і лесагаспадарчай вытворчасці, звязаных з адабраннем зямель.

23. Рашэнне аб узгадненні месца размяшчэння аб'екта і памераў плошчы, якая намячаецца да адабрання, з'яўляецца сапраўдным на працягу трох гадоў. Указаны тэрмін можа быць прадоўжаны органам, які прыняў рашэнне аб узгадненні месца размяшчэння аб'екта.

24. Пасля правядзення праектна - вышукальных работ, зацвярджэння ва ўстаноўленым парадку праекта на будаўніцтва аб'екта зацікаўленыя прадпрыемствы хадайнічаюць аб прадастаўленні для гэтага аб'екта зямельных участкаў.

### ПАРАДАК УЗБУДЖЭННЯ І РАЗГЛЯДУ ХАДАЙНІЦТВАЎ АБ ПРАДАСТАЎЛЕННІ ЗЯМЕЛЬНЫХ УЧАСТКАЎ

25. Прадпрыемствы, зацікаўленыя ў прадастаўленні зямельных участкаў, прадстаўляюць у адпаведны сельскі, пасялковы, гарадскі, раённы Савет народных дэпутатаў (па месцы знаходжання зямель, якія запытваюцца) хадайніцтвы з абгрунтаваннем неабходнасці адводу зямельнага ўчастка і яго памеру. У выпадках адабрання зямельных участкаў аднячасова з зямель населеных пунктаў, калгасаў, саўгасаў, іншых землеўладальнікаў і землекарыстальнікаў, а таксама ў выпадках, калі рашэнне аб прадастаўленні зямельнага ўчастка будзе прымаць абласны Савет народных дэпутатаў або Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, хадайніцтвы падаюцца ў раённы Савет народных дэпутатаў.

Да хадайніцтва прыкладаюцца:

матэрыялы папярэдняга ўзгаднення месца размяшчэння аб'екта;

даведка аб наяўнасці ў прадпрыемстваў сродкаў, неабходных для будаўніцтва аб'екта, пакрыцця страт, прычыненых землеўладальнікам і землекарыстальнікам адабраннем зямельных участкаў, і страт сельскагаспадарчай і лесагаспадарчай вытворчасці;

праект або схема размяшчэння аб'екта на зямельным участку, які запытваецца (копія генплана), з указаннем у іх чарговасці забудовы па гадах;

заключэнне дзяржаўнай экалагічнай экспертызы па праекту будаўніцтва аб'екта;

заключэнне Беларускага вытворчага аб'яднання па геолагаразведачных работах (у выпадках адводу зямельных участкаў для розных відаў будаўніцтва);

заключэнне органаў дзяржгортэхнагляду, копія або выпіска з горнаадводнага акта (у выпадках адводу зямельных участкаў для распрацоўкі месцанараджэнняў карысных выкапняў).

Калі зямельныя ўчасткі прадастаўляюцца для распрацоўкі карысных выкапняў адкрытым спосабам або для будаўніцтва, звязанага з парушэннем глебавага покрыва, то аднячасова прадстаўляецца праект рэкультывацыі зямель.

26. Пры адсутнасці пярэчанняў па адводу зямельнага ўчастка адпаведны Савет народных дэпутатаў на падставе прадстаўленых матэрыялаў у двухтыднёвы тэрмін дазваляе прадпрыемству распрацоўку праекта адводу зямельнага ўчастка. Раённы Савет народных дэпутатаў паведамляе аб прынятым па гэтаму пытанню рашэнні адпаведнаму сельскаму (пасялковаму) Савету народных дэпутатаў.

27. Распрацаваны праект адводу зямельнага ўчастка выканаўцам работ (з удзелам прадпрыемства, зацікаўленага ў адабранні зямельнага ўчастка) узгадняецца з землеўладальнікам або землекарыстальнікам, раённымі (гарадскімі) органамі землеўпарадкавання, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды, санітарнага нагляду, іншымі зацікаўленымі арганізацыямі і службамі і прадстаўляецца для разгляду сельскаму, пасялковаму, гарадскому Савету народных дэпутатаў.

28. Сельскі, пасялковы, гарадскі (горада раённага падпарадкавання) Савет народных дэпутатаў у месячны тэрмін разглядае прадстаўленыя матэрыялы і прымае рашэнне, указаўшы ў ім размер зямельнага ўчастка, мэту, для якой ён прадастаўляецца, і ўмовы адводу.

Калі адабранне і прадастаўленне зямельных участкаў павінна праводзіцца раённымі, абласнымі Саветамі народных дэпутатаў або Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, сельскі, пасялковы, гарадскі (горада раённага падпарадкавання) Савет народных дэпутатаў у двухтыднёвы тэрмін рыхтуе сваё заключэнне, і матэрыялы аб адводзе зямельных участкаў накіроўваюцца раённаму Савету народных дэпутатаў.

29. Раённы Савет народных дэпутатаў у месячны тэрмін прымае рашэнне аб адводзе зямельных участкаў або дае сваё заключэнне, калі іх адабранне і прадастаўленне праводзіцца вышэйстаячымі Саветамі народных дэпутатаў.

30. Разгледжаныя раённым Саветам народных дэпутатаў матэрыялы аб адводзе зямельнага ўчастка выканаўца работ (з удзелам прадпрыемства, зацікаўленага ў адабранні зямельнага ўчастка) узгадняе з абласнымі органамі землеўпарадкавання, лясной гаспадаркі, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды (у выпадках, калі аб'ект размешчаны з адступленнем ад раней узгодненага месца або ўмоў экалагічнай экспертызы), іншымі зацікаўленымі ўстановамі і арганізацыямі і накіроўвае абласному Савету народных дэпутатаў.

31. Абласны Савет народных дэпутатаў у месячны тэрмін вырашае пытанне аб адводзе зямельных участкаў, а па пытаннях, якія патрабуюць рашэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, праект адводу зямель са сваім рашэннем накіроўвае Камітэту па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Беларускай ССР.

32. Камітэт па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванню пры Савеце Міністраў Беларускай ССР пры неабходнасці ўзгадняе матэрыялы аб адводзе зямельных участкаў з Дзяржаўным камітэтам Беларускай ССР па архітэктуры і будаўніцтву, Дзяржаўным камітэтам Беларускай ССР па экалогіі, Міністэрствам лясной гаспадаркі Беларускай ССР, Міністэрствам аховы здароўя Беларускай ССР (у выпадках, калі аб'ект размяшчаецца з адступленнем ад раней узгодненага месца або ўмоў экалагічнай экспертызы), у дваццацідзённы тэрмін рыхтуе прапановы аб адводзе зямельных участкаў (заключэнне, праект пастановы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР) і ўносіць іх на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

## IV. Парадак атрымання дазволу на правядзенне вышукальных работ

33. Для атрымання дазволу на правядзенне геолагаздымачных, пошукавых, геадэзічных і іншых вышукальных работ на ўсіх землях тэрмінам да аднаго года прадпрыемствы прадстаўляюць у раённы (гарадскі) Савет народных дэпутатаў наступныя матэрыялы:

заяўку прадпрыемства, якое ажыццяўляе вышукальныя работы;

план (чарцёж) зямель, на якіх будуць праводзіцца вышукальныя работы;

дакументы, што абгрунтоўваюць размер зямельнай плошчы, на якой будуць праводзіцца вышукальныя работы;

дакумент аб згодзе землеўладальніка або землекарыстальніка, на землях якіх павінны праводзіцца вышукальныя работы, з указаннем тэрміну пачатку гэтых работ, месца і ўмоў іх правядзення;

заключэння раённага (гарадскога) органа землеўпарадкавання, архітэктуры і горадабудаўніцтва, аховы прыроды.

Раённы (гарадскі) Савет народных дэпутатаў у двухтыднёвы тэрмін разглядае матэрыялы і прымае адпаведнае рашэнне.

## V. Устанаўленне граніц зямельнага ўчастка ў натуры і выдача дакументаў на права валодання або карыстання зямлёй

34. Устанаўленне граніц прадастаўленага зямельнага ўчастка ў натуры (на мясцовасці) ажыццяўляецца адпаведнымі дзяржаўнымі землеўпарадкавальнымі органамі або органамі архітэктуры і горадабудаўніцтва (выканаўцамі работ) у прысутнасці грамадзяніна або прадстаўніка прадпрыемства, якому прадастаўляецца зямельны ўчастак, землеўладальніка або землекарыстальніка, з зямель якога адбіраецца зямельны ўчастак, і ў выпадку неабходнасці сумежных землеўладальнікаў або землекарыстальнікаў.

Зямельны ўчастак замацоўваецца ў натуры межавымі знакамі.

35. Пасля заканчэння работ па перанясенню праекта ў натуру (на мясцовасць) выканаўцам работ складаюцца дзяржаўныя акты на права пастаяннага валодання (карыстання) зямлёй, на права пажыццёвага спадчыннага валодання зямлёй або афармляецца пасведчанне на права часовага карыстання зямлёй па формах, зацверджаных Саветам Міністраў Беларускай ССР. Указаныя дакументы састаўляюцца ў двух экземплярах: першы экземпляр выдаецца грамадзяніну, прадпрыемству, якому адведзены зямельны ўчастак, а другі экземпляр захоўваецца ў адпаведным Савеце народных дэпутатаў.

Дзяржаўныя акты на права пастаяннага валодання (карыстання) зямлёй, на права пажыццёвага спадчыннага валодання зямлёй, а таксама пасведчанні на права часовага карыстання зямлёй выдаюцца і рэгіструюцца:

сельскімі Саветамі народных дэпутатаў — пры прадастаўленні зямельных участкаў з зямель сельскіх населеных пунктаў;

гарадскімі (пасялковымі) Саветамі народных дэпутатаў — пры прадастаўленні зямельных участкаў з зямель гарадоў (пасёлкаў);

раённымі Саветамі народных дэпутатаў — пры прадастаўленні зямельных участкаў з іншых катэгорый зямель.

36. Садаводчаму і жывёлагадоўчаму таварыству Дзяржаўны акт на права пастаяннага валодання зямлёй выдаецца на землі агульнага карыстання (землі, занятыя ахоўнымі зонамі, дарогамі, праездамі, іншымі збудаваннямі і аб'ектамі грамадскага карыстання). На ўчастак, прадастаўлены члену садаводчага або жывёлагадоўчага таварыства, па прадстаўленню адпаведнага таварыства выдаецца Дзяржаўны акт на права пажыццёвага спадчыннага валодання зямлёй.

---

[1] Калгасы, саўгасы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі выдзяляюць грамадзянам участкі для агародніцтва, касьбы і выпасу жывёлы з зямель, што знаходзяцца ў іх валоданні і карыстанні, у парадку, які вызначаецца артыкулам 55 Кодэкса Беларускай ССР аб зямлі.

[2] У далейшым называецца — прадпрыемствы.

# НАД БУГАМ — ЦІШЫНЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

людзей не будзе (як хацелася б напісаць — ніколі) узарвана, як было ўзарвана ў 41-м. Мы слухалі лёгкае шапаценне лістоты, не вельмі ўпэўнены пасля сну голас салаўя, успплескі вады ў Мухаўцы, і гучныя каманды спецыялістаў з канцэртнай залы «Расія», якія ладзілі абсталяванне спецыяльных светлавых эфектаў для вячэрняга канцэрта, і галоўнае — крокі дзесяткаў людзей, якія ішлі і ішлі міма руін крэпасці, кожны да свайго асэнсавання жыцця і смерці, чалавека і Радзімы, шчасця і свабоды.

Асабліва важна, на мой погляд, што большасць сярод тых, хто прыйшоў у тую раннюю часіну ў крэпасць, была моладзь. Як пасля гэтага верыць тым, хто гаворыць, што маладым зараз неўласцівы цудоўныя парывы, што яны не здольны думаць пра вечнае!

Не паслухалі мы цішыню, не здолелі і ўявіць, што адчувалі людзі, пра што думалі, зразумеўшы, што пачалася вайна. Упэўнены — ніхто не можа ўявіць гэта, не перажыўшы тых страшных мінут. Дай Божа, каб такой магчымасці ні ў нас, і ў нашых дзяцей і ўнукаў ніколі не з'явілася.

Неба на ўсходзе яшчэ толькі-толькі святлела, а абаронцы крэпасці разыходзіліся па яе тэрыторыі, каб чатыры гадзіны раніцы сустрэць там жа, дзе сустрэлі іх пяцьдзесят гадоў назад. Колькі ўспамінаў — горкіх і эмацыянальных — наслухаліся мы ў тую раніцу, колькі трагічных лёсаў раскрылася нам! Вось толькі некаторыя з іх.

**Андрэй Мацвеевіч АХОРЗІН** са Свярдлоўскай вобласці: Я служыў на заставе. І як немцы пайшлі праз граніцу, мы з Анісімавым, маім сябрам, адышлі ад яе метраў на 200 і занялі абарону ў дзоце. Дзоты былі пабудаваны, але там ні зброі, ні людзей не было. Дык мы там і заселі. На кожнага было па вінтоўцы і 60 патронаў. І пачалі мы страляць. Немцы, відаць, думалі, што нас у дзоце многа і, сцішыўшы аўтаматны агонь, пачалі нас біць мінамётамі і артылерыяй. А потым бачым — абышлі дзот і пачалі наступаць на заставу. Калі ў нас засталося па пяць патронаў, пачалі дабірацца да сваіх.

**Пётр Дзмітрыевіч ХАПОШЫН** з Варашылаўграда: Я асабіста — ды і не я адзін — дакладна ведаў дзень і гадзіну пачатку вайны. У суботу праз раку да нас перабраўся паляк — я нават тое месца магу паказаць — і сказаў: заўтра, у 4 раніцы, немцы пойдуць на вас. Таму я з вечара лёг спаць, не распранаючыся,— з пісталетам у кабуры, з планшэтам. Бацьку сказаў: як пачуеш што, адразу будзі. Ды будзіць не трэба было, там мёртвы прачнуўся б.

**Сцяпан Васільевіч ГУЛЕГІН** з Кіева: Вядома, ведалі, што вайна пачнецца не сёння — заўтра. Помню, як у суботу начальнік разведкі палка пасля даклада ў штаб — а штаб быў у Кобрыне — лаяўся: «От дураломы, от дураломы!» Адтуль яму сказалі, каб не панікаваў.

Яшчэ ўвечары 21-га перарвалася сувязь з Кобрынам — дыверсанты папрацавалі. Пазней — і ўнутры крэпасці. У 3.45 немцы пачалі артпадрыхтоўку. Я да сённяшняга дня не магу забыць словы жонак, якія падганялі сваіх мужоў: «Бяжыце, бяжыце, з дзецьмі мы самі». Хаця здагадваліся, куды тых пасылалі...

Тэхнікі ў крэпасці і так было нямнога, а ў пятніцу ці суботу атрымалі тэлеграму — гэта інфармацыя дакладная, я ж сувязіст — што маршал Кулік будзе інспектаваць войскі ў Брэсце, пачне з агляду тэхнікі. Таму ўсю яе вывелі з укрыццяў. Ясна, што ў абароне амаль уся яна не ўдзельнічала.

Затое штыком нашы салдаты і камандзіры валодалі пamaйстэрску. З крэпасцю радыёсувязь трымалася дзён дзесяць, пакуль не «селі» акумулятары. Хаця ўсё роўна абаронцам ніхто дапамагчы не мог.

Тут пасля вайны я першы раз. Але адразу ўсё пазнаў. Хаця шкада, што ў крэпасці так многа прыхарошана. Хай бы засталося так, як было пасля вайны. Як дом Паўлава ў Сталінградзе.

**Гурген Марціросавіч ВАСКАНЯН** з Абавяна: Я з жонкай і дзіцем — толькі нарадзілася — жылі на кватэры. Як пайшоў па трывозе ў крэпасць, так іх больш і не бачыў. Шукаў іх, яны мяне. Толькі сёлета праз Чырвоны Крыж паведамілі, што мяне шукае ўнучка, што жыве яна ў Польшчы. Дамаўляліся праз лісты сустрэцца ў Брэсце. Ужо тыдзень чакаю, нікога няма...





Шмат брастаўчан прыйшло ў крэпасць-герой на мітынг-рэквіем, два самалёты даставілі прадстаўнікоў 43 краін антыгітлераўскай кааліцыі. На трыбуне — ветэраны другой сусветнай вайны з нашай краіны і з-за рубяжа, Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч, першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў, камандуючы ЧБВА А. Кастэнка. Выступленні кароткія, але страсныя, эмацыянальныя, і гэта зразумела: словы ў такі дзень ідуць ад сэрца.

А вось як пачаў сваё выступленне прадстаўнік дэлегацыі нямецкага горада Равенсбурга прафесар Зігфрыд Ротэр: «Мы, немцы, не павінны выкрэсліваць сумныя старонкі нашай гісторыі, на якіх напісана, што нямецкім народам прынесена столькі пакут народу Беларусі і другім народам Савецкага Саюза».

А калі тэлежурналісты з Гамбурга і Мюнхена дапытваліся ў абаронцаў крэпасці, якія ў іх пачуцці да немцаў, тыя адказвалі: час залячыў раны на сэрцы, і зараз мы разам з вамі павінны працаваць на карысць агульнага міру.

Калі мы развітваліся з крэпасцю, сталі сведкамі сцэны, якую прыдумаць не мог бы, бадай, самы таленавіты пісьменнік. Хлопчык гадоў чатырох пытае ў маці: «Мама, а дзе вайна?» «Вайна скончылася, сынок». «А калі зноў будзе?» «Яе ўжо больш не будзе».

Каб жа гэтыя словы сталі прарочымі!

**Я. ЧАПЛЯ.**





**На здымках:** Брэсцкая крэпасць у 3 гадзіны 22 чэрвеня; сустрэча байцоў аднаго паграпатрада — **А. Ахорзіна** са Свярдлоўскай вобласці і **М. Абуваліева** з Ташкента; 22 чэрвеня выхавальніца дзіцячага садзіка Галіна **Старавойтава** і нядаўні салдат Пётр **Мізэрыя** стварылі новую сям'ю. Шчасця вам, маладыя; перад уручэннем Сяргею Рыгоравічу **Ваганаву** з Хмяльніцкай вобласці ордэна Айчыннай вайны быў зачытаны ўказ, у якім ёсць словы «ўзнагародзіць (пасмяротна)». Ды выжыў былы танкіст і разам з ордэнам атрымаў медаль «За адвагу»; у час пасяджэння; **А. Малафееў** з абаронцамі крэпасці; успаміны ля вогнішча.

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

# АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

МІНСК

## ФІЛІЯЛ ШУКАЕ СПОНСАРАЎ

**МАГІЛЕЎ. (А. Санчук). На высокім беразе Дняпра ў лесапаркавай зоне абласнога цэнтра пачаў дзейнічаць філіял Інстытута радыяцыйнай медыцыны. У яго стацыянары 150 ложкаў для дзяцей і 120 — для дарослых.**

Філіял размясціўся ў былой турысцкай гасцініцы «Любуш». Рашэнне аб перадачы яе ў арэнду так неабходнай вобласці навукова-лячэбнай установе было прынята даўно. Але яно ігнаравалася групай былых работнікаў гасцініцы. Па гэтай прычыне філіял адкрыўся са значным спазненнем.

Праўда, медыцынскі персанал, выкарыстаўшы затрымку, няблага падрыхтаваўся да работы. Урачы набылі вопыт у аналагічных установах Мінска і Масквы. Шматлікія лабараторыі і лячэбныя кабінеты абсталяваны самым неабходным. Разам з тым іх камплектаванне пакуль не завершана. Філіял шукае спонсараў, якія б дапамаглі яму ў набыцці абсталявання.

## АБ ПРАБЛЕМАХ — НАВАТ У ЮБІЛЕЙ

**ПІНСК. (С. Шапіра). Сваё 25-годдзе адзначае ў гэтыя дні аб'яднанне «Палессеводбуд».**

За чвэрць стагоддзя 50-тысячны атрад палескіх меліяратараў увёў у дзеянне звыш 2 млн. гектараў новых зямель, пабудаваў 30 саўгасаў, 5 рыбгасаў, 11 вадасховішчаў. Рукамі будаўнікоў аб'яднання ўзведзены дзесяткі тысяч добраўпарадкаваных кватэр, шматлікія аб'екты сацкультбыту.

Аднак актыўная, буйнамаштабная дзейнасць чалавека па асушэнню палескай нізіны стала прычынай сур'ёзных экалагічных праблем. Вось чаму замест парадных урачыстасцей і рапартаў аб дасягненнях тут, у Пінску, вырашылі правесці навукова- практычную канферэнцыю «Праблемы аховы біясферы беларускага Палесся ў сувязі з яго інтэнсіўным меліярацыйным і гаспадарчым асваеннем».

## ЗАВОД І ВЁСКА

**МАЛАДЗЕЧНА. (А. Манцэвіч). Сустрэча паміж кіраўнікамі прамысловых прадпрыемстваў і сельскіх гаспадарак, якую правялі старшыні гарадскіх і раённых Саветаў народных дэпутатаў Г. Карпенка і А. Луковіч, нагадвала самыя сапраўдныя дыпламатычныя перагаворы. У ходзе абмеркавання ўзаемаадносін паміж горадам і вёскай удзельнікі размовы прыйшлі да высновы стварыць на базе існуючага аграпрамкамбіната «Маладзечанскі» новую гаспадарчую структуру, якая б аб'ядноўвала сілы ўсіх прамысловых прадпрыемстваў 100-тысячнага горада і навакольных гаспадарак.**

Толькі ў гэтым выпадку апошнія змогуць вырабляць не толькі сыравіну, але і гатовую прадукцыю,—такой была агульная думка ўдзельнікаў сустрэчы. Калі, скажам, завод лёгкіх металаканструкцый поўнасцю абсталяваў вядомую на ўсю краіну латвійскую гаспадарку «Адажы», то чаму ён з такой жа ахвотай не ідзе на супрацоўніцтва з землякамі? Прычына—у адсутнасці інтарэса, які можа з'явіцца пасля структурных пераўтварэнняў, намечаных новымі кіраўнікамі мясцовых Саветаў. Дарэчы, супрацоўніцтва на якасна новым узроўні паміж горадам і вёскай—асноўны напрамак дзейнасці старшыні гарсавета, народнага дэпутата БССР Г. Карпенкі.

## САЛЁНЫЯ РАДОВІШЧЫ

**САЛІГОРСК. (М. Лойка). Магутныя пласты каменнай солі таўшчынёй да 65 метраў залягаюць побач з калійнай рудой на Старобінскім радовішчы. Літаральна на кожным з чатырох руднікоў аб'яднання «Беларуськалій» наладжваюць яе здабычу.**

Згодна з разлікамі вучоных, прыгоднай для харчовых мэт солі тут залягае каля 1,7 мільярда тон. Улічваючы, што дэфіцыт тэхнічнай і харчовай солі ў краіне складае каля 30 працэнтаў, перспектыва яе здабычы абнадзейвае. Існуе попыт на гэту прадукцыю і за мяжой. Між іншым, у Салігорску пласты ўскрыты горнымі распрацоўкамі, і здабываць соль тут вельмі выгадна. Зараз у аб'яднанні створана камісія, якая ўсур'ёз займаецца гэтымі пытаннямі. У 1-м рудаўпраўленні вызначаны тэрміны падрыхтоўчых работ, іх выканаўцы, вядуцца доследы. Ужо сёння на 1-м рудніку можна здабываць першасортную кармавую соль.

Здабыча гэтай солі можа стаць эфектыўнай дадатковай крыніцай гаспадарання, калі ўлічыць, што на ўсходнееўрапейскім рынку тона солі каштуе ад 22 да 44 долараў.

## І ВАДЗІЦЕЛЯМ, І КАНТОРШЧЫКАМ

**СЛУЦК. (Г. Лемеш). Для тых, хто многа сядзіць, прызначана навінка, якую распрацаваў калектыў вучэбна-вытворчага прадпрыемства. Гэта так званая масажная накідка для вадзіцеляў.**

Складаецца яна з драўляных шарыкаў, якія забяспечваюць масаж цела і ўтвараюць своеасаблівую паветраную праслойку паміж сядзеннем і вадзіцелем, што вельмі спрыяе ў гарачую пару года. Заўважым, што накідку можна выкарыстоўваць і ўякасці масажора для кабінетных работнікаў. Плануецца выпускаць да 25 тысяч масажных накідак у год.

## З КАТОМ НА ПАЛЯВАННЕ

**Кажуць, што хатнія каты здольныя ў большасці сваёй толькі на шкоду. Аднак гэта, як аказваецца, далёка не так...**

У Казахстане, як піша «Комсомольская правда», некалі было вельмі папулярнае паляванне з беркутам на ліс, зайцаў і г. д. У хуткім часе, магчыма, стане папулярным новы від — з кошкамі на «джынсы». Прыклад таму паказаў 14-гадовы алма-ацінскі школьнік Валерый К. Усё робіцца вельмі проста. Абвязаўшы хатняга ката вяроўкай вакол тулава, Валерык запускаў каменем вусаты снарад у выбраную цэль — падвешанае на балконе для сушкі адзенне. Той, зразумела, запускаў у здабычу кіпцюры і цяпер толькі заставалася пацягнуць вяроўку назад... Трэба дадаць, што толькі на ўласным двары ў час «палявання» было зроблена 13 дакладных пападанняў.

## СТАГОДДЗІ — НЕ ПЕРАШКОДА

МАГІЛЁЎ. Завяршыла сваю работу незвычайная экспазіцыя, якая працавала ў выставачнай зале Саюза мастакоў. Яна сабрала розныя па часу стварэння і мастацкаму ўвасабленню творы, аб'яднаныя пад назвай «Звонавы бой душы». А ўся незвычайнасць гэтай экспазіцыі ў тым, што разам з сучаснымі творамі магілёўскіх мастакоў дэманстраваліся ўнікальныя старажытныя іконы і аклады царкоўных кніг з фондаў краязнаўчага музея і Магілёўскай епархіі. Такое суседства спрыяла своеасабліваму ўспрыманню экспанатаў, якія раздзялялі стагоддзі.

Выпуск падрыхтавалі: У. ГОЙТАН, І. КАРНЕЙ, А. КОКТЫШ, А. СЛАНЕЎСКІ, С. СУЛКОЎСКІ.
Нашы тэлефоны: 32-44-02, 32-60-13, 32-31-98.

# ПЛАНЕТА: ЛЮДЗІ І ПАДЗЕІ

## «КАРОЛЬ» ЗДАЕЦЦА ЎРАДУ

БАГАТА. Турмы бываюць розныя. Калі адной турмы злачынца баіцца больш чым агню, то ў другую пойдзе добраахвотна і нават ледзь ці не з радасцю. Гэты няхітры афарызм як нельга лепш ілюструе сітуацыю, якая ўзнікла ў Калумбіі ў сувязі з тым, што чакаецца з дня на дзень здача калумбійскім уладам верхавода буйнейшай арганізацыі наркамафіі «Медэльінскі картэль» Пабла Эскабара.

У мінулым месяцы «какаінавы кароль» выказаў намер здацца уладам у абмен на абавязацельства ўлад не выдаваць яго для суда ў ЗША. Як з задавальненнем канстатуюць прадстаўнікі ўрада, у мястэчку Энвігада паблізу «штаб-кватэры» мясцовай наркамафіі — горада Медэльін — ужо гатова да «здачы пад ключ» спецыяльная турма для «дона Пабла» і яго саратнікаў з «вышэйшага эшалона» наркакартэля, якія пажадаюць здацца ўладам разам з шэфам.

## НАСЛЯДЗІЛІ

**БУДАПЕШТ. Тэкел, Кунмадараш, Шармелек, Кішкунлацхаза, Дэбрэцэн — гэта назвы некалькіх гарадоў і населеных пунктаў Венгрыі, дзе, на думку спецыяльнай групы венгерскіх экспертаў, навакольнаму асяроддзю быў нанесены адчувальны ўрон у выніку знаходжання там савецкіх войск.**

**На праведзенай сёння тут прэс-канферэнцыі яны паведамілі, што вывучана экалагічная абстаноўка ў 171 месцы дыслакацыі савецкіх воінскіх падраздзяленняў, 43 тыс. гектараў плошчы. А асноўны ўрон прыродзе, паводле даных экспертаў, нанесены ў месцах размяшчэння савецкіх ваенных аэрадромаў у выніку ўцечкі гаруча-змазачных матэрыялаў, а таксама ў раёне палігона для бомбамятання непадалёку ад нацыянальнага парка ў Хортабадзе.**

## ЦІ ДАПАМОЖА ВАКЦЫНА!

НЬЮ-ЙОРК. Стварэння вакцыны супраць «чумы XX стагоддзя» можна, верагодна, чакаць к канцу дзесяцігоддзя. Такую думку выказаў дырэктар праграмы па барацьбе са СНІД Сусветнай арганізацыі аховы здароўя Майкл Мэрсан, які выступіў у аўторак у праграме тэлекампаніі Эй-бі-сі «Добрай раніцы, Амерыка!»

«Яшчэ два гады назад цяжка было б адказаць на пытанне аб магчымасці распрацоўкі вакцыны ад СНІД асцвярджальна. Цяпер жа існуе абгрунтаваная надзея, што вакцына будзе створана»,— сказаў М. Мэрсан. Ужо цяпер, паводле слоў вучонага, існуюць 11 відаў эксперыментальных прэпаратаў, некаторыя з якіх ахоўваюць ад заражэння вірусам імуннага дэфіцыту, другія перашкаджаюць развіццю хваробы. Яны праходзяць цяпер выпрабаванні на невялікіх групах людзей. «Калі мы пераканаемся ў іх бяспецы і эфектыўнасці, выпрабаванні будуць пашыраны, праз 2—3 гады могуць быць распачаты, пры ўмове наяўнасці добраахвотнікаў, клінічныя выпрабаванні»,— паведаміў эксперт.

*Падрыхтавана па матэрыялах ТАСС.*

# Мінск—Паўднёва-Сахалінск

## НОВЫ АВІЯРЭЙС БЕЛАРУСКАГА ЎПРАЎЛЕННЯ ГРАМАДЗЯНСКАЙ АВІЯЦЫІ

**На мінулым тыдні адкрылася новая авіялінія — Мінск—Паўднёва-Сахалінск. Па традыцыі ў першы рэйс авіятары запрасілі групу журналістаў, сярод якіх быў і карэспандэнт «Звязды».**

Роўна па раскладу, у 16.10, ТУ-154 лёгка адарваўся ад узлётнай паласы, прамільгнулі і схаваліся за воблакамі вёсачкі, што каля Смалявіцкага аэрапорта. З невялічкага памяшкання каля кабіны пілота было відаць: лётчыкі прымаюць каманды з зямлі, лаканічна адказваюць на іх. Праз некалькі мінут неабходная вышыня набрана (а гэта восем тысяч метраў), у справу ўступае аўтапілот, а мы знаёмімся з экіпажам.

Новую лінію даручылі адкрыць: камандзіру паветранага судна Віталію Уладзіміравічу Мялешку, другому пілоту Івану Іванавічу Барабану, штурману Аляксандру Іванавічу Нікалаеву і бортінжынеру Мікалаю Іванавічу Кісялю. Абслугоўваць пасажыраў у палёце будуць бортправаднікі Аксана Храмцова, Вольга Сяргеева, Яніна Пахалюк і Юрый Завярцяеў.

Разам з пасажырамі па новаму маршруту адправіўся і начальнік аддзела перавозак Беларускага ўпраўлення грамадзянскай авіяцыі Уладзімір Сямёнавіч Міхнюкевіч.

— Гэты рэйс,—расказвае ён, — будзе выконвацца з 16 чэрвеня па 15 верасня два разы ў тыдзень. Працягласць трасы 8.350 кіламетраў самалёт пройдзе за 13 гадзін (лётны час — 10 гадзін 35 мінут). Пасадкі запланаваны ў Омску і Чыце. У Чыце зменіцца экіпаж.

Трэба дадаць, што гэта не адзіны рэйс, які адкрываецца ў гэтым годзе. Сёння ж, гадзінай пазней, таксама на ТУ-154 у палёт на Благавешчанск адправяцца першыя пасажыры. Пашыраецца навігацыя рэйса на Уладзівасток — цяпер ён будзе выконвацца з 1 чэрвеня па 30 верасня пяць разоў у тыдзень замест ранейшых чатырох. З 10 ліпеня пачне працаваць новы рэйс на «Радужны». Адкрыты прамыя рэйсы на Уфу і Самару. Што датычыць цяперашняга палёту, то нагадаю, што ў Паўднёва-Сахалінск мы плануем перавезці сёлета каля 3,5 тысячы пасажыраў.

Пакуль мы гаварылі з Уладзімірам Сямёнавічам, дзяўчаты-бортправадніцы падрыхтавалі ўжо і пачалі разносіць абед. Каўбаса, курыца з рысам, кава з булачкай — даволі шыкоўна, улічваючы цяперашні час.

Пасля абеду знаёміліся з некаторымі пасажырамі. Мікалай Сцяпанавіч Дзямідаў, наш сусед па салону, вязе да сябе ў Паўднёва-Сахалінск унука Вальку.

— Вельмі задаволены адкрыццём прамога рэйсу, — гаворыць пенсіянер, — колькі турбот пазбегну.

Сяржант тэрміновай службы Сяргей Нікіцюк вяртаецца на пагранзаставу з водпуску. Ён таксама задаволены — новы рэйс зэканоміў яму амаль суткі. Падзяку авіятарам выказвалі і іншыя пасажыры.

У Чыце цёпла развітваемся з экіпажам. Далей машыну павядуць камандзір Канстанцін Аляксеевіч Раткевіч, пілот-інспектар Міхаіл Уладзіміравіч Грэсь, другі пілот Сяргей Аляксандравіч Зыкаў, штурман Анатоль Уладзіміравіч Пашкевіч і бортінжынер Аляксандр Барысавіч Каланей. Не менш ветліва і акуратна, чым папярэдняя брыгада, абслугоўваюць пасажыраў бортправаднікі Валянціна Ермалоўская, Алена Надтачаева, Таццяна Буталенка і Сяргей Цітоў.

І вось у бартавым дынаміку раздаецца: «Паважаныя пасажыры, экіпаж карабля віншуе вас з заканчэннем першага рэйсу на новай лініі. Праз некалькі мінут самалёт зробіць пасадку ў аэрапорце Паўднёва-Сахалінска».

Палёт завершаны. Застаецца дадаць, што дамоў мы вярталіся зноў па новаму маршруту — Благавешчанск — Чэлябінск — Іркуцк — Мінск. І зноў пасажыры, а іх было больш за 130 чалавек, выказвалі задаволенасць адкрыццём прамой авіялініі. Скажам «дзякуй» Аэрафлоту і мы, журналісты, якім ён арганізаваў цікавае падарожжа і пазнаёміў бліжэй з цяжкай работай авіятараў.

**В. КРАЎЧАНКА.**



**НА ЗДЫМКУ:** інтэрв'ю перад палётам дае камандзір авіялайнера **В. У. МЯЛЕШКА.**

Фота аўтара.

